# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ БЕЛАСТОК ВІЛЬНЯ

№ 10 (24) 23 красавіка — 6 траўня 1993 г. Кошт 5 рублёў

Бюст Васіля Чапаева ў нагрузку... Або помнік Леніну, паглядзець на які чужых ня пушчаюць. І яшчэ шмат цікавага АБ ГІСТОРЫІ ГАРАДЗЕНСКІХ ПОМНІКАЎ.

**ВІЛЕНШЧЫНА** — унікальны рэгіён традыцыйнай беларускай культуры. Беларусы фармуюць тут своеасаблівую Мэкку.

Размова з Лявонам Вольскім — кіраўніком самай скандальнай змагарскай камандай «МРОЯ».

Праграма ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ на наступны тыдзень: Менск — Варшава — Масква.

## Беласточчына

◀

25 лютага Беластоцкі апэляцыйны суд зарэгістраваў назву беларускага тыднёвіка «Ніва», выдаванага ў Беластоку. Выдаўцом газэты ёсьць Праграмная Рада тыднёвіка, якая пачала рабіць захады дзеля гэтага каля года таму, калі БГКТ не ўдалося атрымаць правы на газэту. Узначальвае Раду беларускі навуковец і пісьменьнік Ян Чыквін.

◀

27 лютага адбыўся пяты зьезд Беларускага аб'яднаньня студэнтаў. Зьезд даў ацэнку стану беларускага студэнцкага руху, былі абмеркаваны справы, зьвязаныя з ажыцьцяўленьнем галоўных мерапрыемстваў БАСа: «Басовішча», рэйду «Бацькаўшчына» і іншых.

Зьезд абраў Галоўную Раду з 10 асобаў і рэвізійную камісію. Новым прэзідэнтам (старшынёй) на бліжэйшы год быў абраны Юрка Сульжык, студэнт 4-га курса гістарычнага факультэта Варшаўскага унівэрсітэта.

◀

11 сакавіка ў Бельску Падляшскім адбылася сэсія гарадзкой рады, на якой зацьвердзілі бюджэт горада на 1993 год. З агульнай сумы ў 40 мільярдаў злотых 20 мільёнаў выдзелена на дадатковае фінансаваньне беларускага хору «Васілёчкі», які працуе пры Бельскім Доме культуры.

◀

15 сакавіка Беластоцкі ваяводзкі суд па незвычайна зацягнутым — больш як на паўгода — легалізацыйным працэсе зарэгістраваў таварыства пад назвай Беларускі Саюз. Ён складаецца з шасьці беларускіх арганізацый: Таварыства беларускіх журналістаў, Беларускага літаратурнага таварыства «Белавежа», Беларускага дэмакратычнага аб'яднаньня, Беларускага аб'яднаньня студэнтаў, Праграмнай Рады тыднёвіка «Ніва» і Саюза беларускай моладзі.

Мэтай стварэньня Беларускага Саюзу зьяўляецца згуртаваньне беларускіх асяродкаў у Польшчы дзеля распрацоўкі супольнай стратэгіі разьвіцьця беларускага руху ва ўсіх яго галінах. Да Саюзу можа далучыцца любая арганізацыя, мэты дзейнасьці якой адпавядаюць ягонаму статуту.

◀

24-25 сакавіка ў Беластоку адбыліся ўрачыстасьці сьвяткаваньня 75-х угодкаў абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Упершыню адзначэньне сьвята мела афіцыйны характар. Падобныя ўрачыстасьці адбыліся таксама ў Варшаве.

**«Часопіс» № 4 (красавік, 1993), г. Беласток.**

**З польскай мовы пераклаў Р. МЕНДЖЫБОЎСКІ.**

**Шаноўныя спадарыні й спадары!**

**Газэта «ПАГОНЯ» — гэта зьвесткі з Гарадзеншчыны, Віленшчыны й Беласточчыны. Калі вас цікавіць беларускае жыцьцё ня толькі на Беларусі, але таксама ў Польшчы й Летуве, дык падпішыцеся на нашу газэту! Паўгадавы кошт — 303 рублі, індэкс — 63124. Падпіска прымаецца ў любым паштовым аддзяленьні Рэспублікі Беларусь.**




● *Эміграцкі друк*

## Чарговы нумар «Беларуса»

Днямі мы атрымалі з Новага Ёрку чарговы, сакавіцкі нумар газэты «Беларус», за што дзякуем нашым амэрыканскім калегам. У папярэднім № «Пагоні» мы ўжо выкарысталі дзьве нататкі з дасланай газэты, а цяпер прапануем агляд усяго нумару.

Перадусім, друкуецца Зварот Рады БНР да беларускага народу з нагоды 75-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці нашай Краіны. У сваю чаргу прывітаньне суродзічам у эміграцыі даслалі старшыня БНФ сп. Пазьняк і сакратар Управы сп. Вячорка. У ім, у прыватнасьці, гаворыцца наступнае: «Змаганьне пакаленьняў беларусаў дало плён. Рэспубліка Беларусь абвешчана незалежнаю дзяржаваю. Над Менскам лунае наш адвечны бел-чырвона-белы штандар, а дзяржаўным гэрбам краіны зноў стала Пагоня... Але галоўнае сьвята Беларусі азмрочана трывогаю. Сілы мінуўшчыны перайшлі ў наступ... Урэшце, незаконна адноўлена КПСС — партыя, якая нясе адказ за пакуты нашага народу, якая збройна нішчыла БНР і растаптала ідэалы 25 Сакавіка».

Друкуюцца матэрыялы, якія датычаць маючага адбыцца ўлетку ў Менску зьезда беларусаў сьвету. Зьмешчаны здымак Васіля Быкава з ягоным інтэрв'ю радыё «Свабода» пад назовам «Наша сувэрэннасьць пад вялікай пагрозай». Аб адным з аспэктаў палітыкі беларускіх уладаў народны пісьменьнік гаворыць: «Я хоць бы хацеў прывесьці адзін момант нашай палітыкі ў дачыненьні да войска, каторага ў Беларусі сканцэнтравалася вялізная колькасьць. Наша кіраўніцтва разьлічвала, што гэта паслужыць усталяваньню добрых адносін з Расіяй, і Расія такім чынам яму аддзячыць, а іменна, кампэнсуе ў галіне энэрганосьбітаў. Ну, але вось аказалася, што войска мы займелі ў вялікай колькасьці, якое трэба карміць, а нафты па-ранейшаму няма, і нават больш таго — робіцца ўсё менш, і яна ўсё даражэе, незалежна ад нашых адносін з Расіяй. Тут, канешне, дзеюць законы рынку і гэтая абачлівасьць, або гэты хвасьцізм, уласьцівы беларускаму кіраўніцтву, не прыносіць Беларусі ніякай карысьці».

А. Сільвановіч піша пра тое, як суправаджаў на Беларусь гуманітарную дапамогу й наведаў праз 48 гадоў родную Вялейку. Груз — чатыры кантэйнеры па 12 мэтраў даўжыні кожны, складаўся з лекаў, шпітальных прыладаў, харчоў і вопраткі, агульным коштам больш за 2 мільёны даляраў. Набыта ўсё было пры ўдзеле Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай Царквы, якую ачольвае ў Амэрыцы мітрапаліт Мікалай.

Аб працы Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў апавядае яе прэзідэнт сп. Мальдзіс. Ён таксама паведамляе ў другім сваім допісе пра ініцыятыву выданьня энцыкляпэдычнага даведніка «Беларусы ў сьвеце».

Цікавае паведамленьне аб наведваньні архібіскупам Тадэвушам Кандрусевічам новаёркскага кардынала О'Конара. Пасьля багаслужбы ў катэдры сьв. Патрыка архібіскуп спаткаўся з амэрыканскімі беларусамі. Як выявілася, ён «дасканала валодае беларускаю мовай, выявіў добрае разуменьне патрэбаў беларускіх каталікоў і прыхільнасьць да справы забесьпячэньня вернікаў і сьвятароў адпаведнай беларускамоўнай літаратурай. Сам ён робіць уражаньне энэргічнага й дабразычлівага чалавека, які ў прынцыпе падтрымвае беларускае нацыянальна-рэлігійнае адраджэньне».

Выдаваны ў Новым Ёрку часопіс расейскіх скаўтаў «Вестник руководителя» зьмясьціў ліст кіраўнікоў Саюза скаўтаў Беларусі І. Косьцевіча і М. Навіцкага. Пачынаецца ён словамі «Все мы дети одной Родины — Великой Руси, которая несмотря на нынешнее положение остается неделимой и вечной Империей». Цікава, што, як сказана ў лісьце, «Союз Скаутов Беларуси находится под покровительством Белорусской Православной Церкви и Патриаршего Экзарха Всея Белоруссии Высокопреосвещеннейшего Митрополита Минского и Слуцкого Филарета». Аўтар допіса А. Будзіч дзівіцца з гэтай нагоды: «Дык для каго адваёўвае Беларусь Уладыка Філарэт, калі ён атакуе прапольскую Каталіцкую Царкву на нашай Бацькаўшчыне — для вольных беларусаў ці для «неделимой и вечной» маскоўскай імпэрыі, з якой беларусы выйшлі нядаўна ледзь жывыя нацыянальна?»

У рэдакцыйным артыкуле на 1-й старонцы аналізуецца амэрыканская дапамога Расеі, выказана спадзяваньне на тое, што прэзідэнт Клінтан прыслухаецца да думкі былога дзяржсакратара Дж. Кісінджэра, які «у сваіх апошніх артыкулах перасьцерагае Захад не забывацца на расейскую гісторыю. Калі амэрыканцы, кажа ён, будуць дапамагаць толькі Расеі, выключаючы іншыя былыя савецкія рэспублікі, дык Захад можа апынуцца за колькі гадоў перад новаадроджанай імпэрыялістычнай Расеяй».

З іншых публікацый «Беларуса» назавем допісы, прысьвечаныя памяці вядомага беларускага кампазітара Міколы Равенскага, які памёр 9 сакавіка 1953 г. ва унівэрсітэцкім горадзе Лювэне ў Бэльгіі. У «Адкрытым лісьце праваслаўных беларусаў» з Мастоў выказваецца просьба дапамагчы грашова пабудаваць у горадзе царкву. Падпісалі ліст айцец Касьян, стараста Г. Лукашук і член царкоўнага савету Н. Лісай. Падаецца разьліковы рахунак 000701204 у Мастоўскім аграпрамбанку. Апошнім друкуецца сьпіс ахвярадаўцаў, якія прыслалі на выданьне «Беларуса» 955 даляраў.

**(спадар).**

## Дзень памяці Ларысы Геніюш

7 красавіка гэтага года споўнілася 10 гадоў з таго дня, як памерла выдатная беларуская паэтка Ларыса Геніюш. У гэты памятны дзень жыхары Зэльвы разам з гасьцямі, якія прыехалі ў мястэчка з Горадні, Менску, Слоніма і іншых гарадоў Беларусі, наведалі могілкі, дзе пахавана славутая беларуска. Паклалі кветкі й ўшанавалі дарагое імя.

Увечары ў мясцовым РДК адбылася вечарына, на якой гучалі ўспаміны пра спадарыню Геніюш, чыталіся вершы ў памяць паэткі: іх выконвалі літаратары М. Скобла, Данута Бічэль-Загнетава, В. Ададурава, І. Навуменка, П. Марціноўскі.

Арганізавалі сьвята ўспамінаў супрацоўнікі цэнтральнай раённай бібліятэкі.

Дарэчы, грамадзкасьць мястэчка робіць намаганьні, каб на доме, дзе пражыла свае апошнія гады Л. Геніюш, была адкрыта мэмарыяльная дошка, а таксама каб адна з вуліц Зэльвы насіла імя паэткі.

**М. ДУБРАВІН.**



ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# «Прадаецца Беларусь...»

Надзвычай цяжкае сёньня эканамічнае становішча на Беларусі. Па дадзеных Старшыні Савета міністраў Вячаслава Кебіча спад прамысловай вытворчасьці склаў 16%, а сельскай гаспадаркі—аж на 23% адносна мінулага года. Пры гэтым тая рыса, за якой павінен быў скончыцца спад і пачацца ўздым вытворчасьці, яшчэ ляжыць па-за полем зроку. Такі стан эканомікі выклікае беспрэцэдэнтнае пагаршэньне жыцьцёвага ўзроўню народа.

Прычыны такога абвальнага краху эканамічнай сістэмы Беларусі ляжаць часткова па-за яе часавымі й прасторавымі межамі, але тлумачацца неабачлівай, непаваротлівай, нарэшце, бязглуздай палітыкай урада. Чым жа адказвае В. Кебіч на абвінавачваньні з боку як палітычнай апазіцыі, так і простых грамадзян? Чым тлумачыцца адсутнасьць мэтанакіраванай эканамічнай палітыкі, якая адпавядала б інтарэсам беларускага грамадзтва?

На 11-ю сэсію Вярхоўнага Савета ў якасьці панацэі прапаноўвалася ідэя выхаду з тупіка праз стварэньне эканамічнага саюзу й ваеннага дагавору аб калектыўнай бясьпецы з краінамі СНД. Пытаньне аб эканамічным саюзе ўяна надуманае, бо з восені 1991 г. побач з дагаворам аб эканамічным супрацоўніцтве Беларусь заключыла, па сьведчаньні самога ж Кебіча, больш за 170 пагадненьняў па пытаньнях эканомікі й г. д. «Акрамя таго, непасрэдна урадам рэспублікі й асобнымі ведамствамі заключана больш за 100 дагавораў і пагадненьняў...» Дык чаму ж не шукаць разам з іншымі бакамі спосабаў іх рэалізацыі, а не дадаваць да стосу напаўмёртвых дакумэнтаў яшчэ адзін мёртванароджаны, бо рэалізацыя яго ізноў будзе залежыць не ад адной толькі Беларусі?

Зразумела, ніякі разумны чалавек ня будзе выступаць супраць нармальных эканамічных адносін з іншымі краінамі, тым больш з суседзямі. «Але,— цытую Мікалая Галко з «Народнай газеты» ад 31.03.93 — горка слухаць палітычныя абвінавачваньні, заклікі, што без саюза нам ня жыць, у той час, калі парлямэнт не шукае адказу, чаму не выкананы двухбаковыя пагадненьні, дзе тыя танныя расейская нафта й казахстанскае збожжа, чаму (як сьцвярджаў некаторыя прамоўцы) Расея адмаўляе нам у ваенных пастаўках і ў той жа час гандлюе зброяй ва ўсім сьвеце?»

Разьлічваць, што эканамічныя пагадненьні пачнуць працаваць пасьля заключэньня эканамічнага саюза,— надзеі самых наіўных прастакоў. І вось тут вылазіць шыла з мяшка: аказваецца, нам патрэбны яшчэ й ваенны саюз з Расеяй, бо, і гэта бадай што адзіны аргумэнт, які прагучаў на сэсіі, «без ваеннага саюза нам ня будуць давяраць, без яго з намі ня будуць лічыцца», такі, разьлічаны на дурняў, аргумэнт канешне ж ня можа быць падставай для дыскусій, аднак паказвае меру розуму, які прыпісваюць нашаму народу некаторыя яго «абаронцы».

Якія могуць быць наступствы такога ваеннага саюзу для Беларусі:

1. Беларуская «каляска» намёртва прымацоўваецца да шалёнай расейскай тройкі, што нясецца насустрач патэнцыяльнай пагрозе грамадзянскай вайны, у той час, як некалькі возьнікаў зацята вырываюць з рук адзін у другога лейцы. Вынікі гэтай авантуры для Беларусі будуць прадказальныя: яны будуць жудаснымі, бо наша Бацькаўшчына ў выніку ваеннага саюза будзе непазьбежна ўцягнута ў гэты крывавы вір.

2. Рэзка пагоршацца адносіны Беларусі з яе непасрэднымі суседзямі: Украінай, Латвіяй, Летувой і Польшчай, якія, канешне ж, на такі саюз ніколі ня пойдуць. Гэта будзе азначаць, што мажлівасьць свабоднага выбару ў кшталтаваньні зьнешняй палітыкі Беларусі рэзка зьменшацца, што будзе раўназначна страце нацыянальнага сувэрэнітэту.

3. Запыніцца шлях на Захад, у Эўропу, бо з краінай, якая пайшла на ваенны саюз з нестабільнай звышдзяржавай у той час, як ёй самой ніхто й нішто, акрамя камуністычна-фашыстоўскіх сілаў гэтай самай звышдзяржавы, не пагражае, канешне ж, ніхто ня будзе лічыцца як з сувэрэннай дзяржавай. Такім чынам, гэты крок азначае безнадзейнае падзеньне аўтарытэту Беларусі на міжнароднай арэне, падзеньне, якое будзе мець фатальныя наступствы й для эканамічных пэрспэктыў Беларусі. Карацей, заключэньне ваеннага саюзу перакрэсьліць нашы спадзяваньні на паляпшэньне жыцьцёвых умоў.

4. Парушацца Канстытуцыя й Ваенная дактрына Рэспублікі Беларусь, якія дэкляруюць Беларусі статус нейтральнай і бяз ′ядзернай дзяржавы. Але парушаць Канстытуцыю й уласнаручна прынятыя законы гэтаму камуністычнаму парлямэнту ўжо так увайшло ў звычку...

5. Расейскія войскі пасьля заключэньня дагавору змогуць заставацца на беларускай зямлі колькі захочуць, а на Беларусі застанецца ядзерная зброя. У гэтым выпадку няцяжка прадбачыць, што калі мажліва ў Расеі да ўлады прыйдуць чырвона-карычневыя, то без залішніх складанасьцяў і амаль лягальна яны назаўтра ж ліквідуюць Беларусь як самастойную дзяржаву. В. Кебіч і камуністычны ваенна-прамысловы хаўрус, які стаіць за ім, могуць быць упэўненымі, што іх панаваньне будзе забясьпечана рускімі штыкамі й танкамі на любы пажаданы тэрмін і ім можна будзе й надалей ігнараваць памкненьні й жаданьні народа Беларусі.

6. Нашым хлопцам абавязкова (агаворкі ў дагаворы для наіўных) прыйдзецца зноў пакутаваць і паміраць далёка ад роднай Беларусі на войнах за чужыя імпэрскія ці кланавыя інтарэсы.

7. Ваенны саюз нічога ня дасьць і ваенна-прамысловаму комплексу Беларусі. Наіўна меркаваць, што пры незагружанасьці сваіх завсдаў урад Расеі будзе разьмяшчаць заказы дзесьці за мяжой...

Як жа ўспрымаецца ініцыятыва Кебіча ў самой Расеі? Трэба адзначыць, што сёньня існуюць дзьве Расеі — дэмакратычная й камуністычна-фашыстоўская, і гэта мае свой выраз у факце двоеўладдзя, якое паступова вядзе да анархіі. Дык вось, дэмакратычная Расея вуснамі віцэпрэм ′ера А. Шохіна (цытую па заяве БНФ «НГ» ад 6.04.93 г.) заяўляе: «Мы не ставим вопрос об экономическом союзе. Это инициатива Беларуси и Казахстана... Мы переходим со всеми странами СНГ на нормальные торгово-экономические отношения, как со странами дальнего зарубежья. России это выгодно экономически». І далей пра калектыўную бясьпеку: «Я впервые слышу такое настойчивое предложение с вашей стороны». Пра калектыўную бясьпеку як умову для эканамічнага саюзу А. Шохін сказаў: «У нас таких условий нет».

Такім чынам, дэмакратычная Расея ставіцца да ініцыятывы В. Кебіча па меншай меры абыякава. Зусім іншая рэакцыя ў імпэрскай, чырвона-карычневай Расеі, якая не хавае свайго намеру ліквідаваць любым коштам незалежнасьць новых дзяржаў. Калі будзе зьліквідавана незалежнасьць Беларусі, чырвоныя й фашысты выйдуць непасрэдна да Летувы й Польшчы амаль акружаць непахісную Украіну. Такім чынам, спраўджваецца выпакутаваная ўсходнеэўрапэйскімі народамі ісьціна: без незалежнай Беларусі ня можа быць свабоднай Польшчы, Прыбалтыкі й Украіны, як і без свабодных Украіны, Прыбалтыкі й Польшчы ня можа быць вольнай Беларусі.

Таму й ня дзіўна, што перадавыя атрады расейскіх чырвона-карычневых на Беларусі, усе гэтыя пкб, славянскія саборы, саюзы афіцэраў, адстаўнікоў-вэтэранаў і г. д. узрадаваліся нечаканаму падарунку спадара Кебіча — так заўзята пачалі прапагандаваць яго ідэю. Ня трэба быць пракорам, каб сказаць, што наступным аб ′ектам іх атакаў будзе беларуская мова й беларускае Адраджэньне.

Такім чынам, ініцыятыву В. Кебіча па стварэньні ваеннага саюзу трэба расцэньваць як спробу ў імя карысьлівых кланавых інтарэсаў узрадзіць камуністычны таталітарызм, як спробу прадаць сувэрэнітэт Беларусі за панюшку табаку, за пах ад чачавічнай поліўкі.

Беларусы, будзьце пільнымі! Ня дайце загінуць надзеі! Бо страта незалежнасьці — гэта страта спадзяваньняў на лепшае жыцьцё!

**М. ПАТРЭБА.**

# «Кухарчыны» дзеці

Нельга лічыць вынікі нечарговай сэсіі паразай. Проста адбылося тое, што павінна было адбыцца. Стан эканомікі катастрафічны. Сёньняшнія кіраўнікі прадпрыемстваў ня могуць яго выправіць. Амаль усе яны людзі мінулага часу. Большасьць з іх прызначаны на пасаду дырэктара маскоўскімі міністэрствамі. Раней ім было ўсё зразумела. З «цэнтру» ідзе сыравіна й заказы, працавітыя беларусы ўсё перапрацоўваюць і маўчаць. Назад у «цэнтр» ідзе гатовая прадукцыя, а адтуль заробак ў якасьці папер з выявай Ільліча. Кіраўніцтва найменш хвалюе, ці на карысьць гэта беларускай дзяржаве, бо такой дзяржавы яны не ўсьведамляюць. Гэтыя людзі ня тое, што ня хочуць — проста ня могуць працаваць па-іншаму.

Замяніць іх на сёньняшні момант няма кім. Аддаць заводы ў рукі прадпрымальнікаў? Дык тыя, хто складае эліту прадпрымальніцтва на Беларусі, ў большасьці выйшлі з-пад крыла КПБ і ВЛКСМ і нажылі капіталы на перaўтварэньні краіны ў зямлю, на якой тавары едуць з Усходу на Захад і наадварот, але ў нас не затрымліваюцца. А беларускае прадпрымальніцтва знаходзіцца ў стане станаўленьня, і кожны лепшы мае за гонар выказаць яму сваю пагарду.

Выправіць становішча мог бы ўрад. Але давайце паглядзім, хто намі кіруе. Гэта ж слаўтуя «кухарчыны дзеці»! Як раней можна было выбіцца ў партбосы на Беларусі? Толькі маючы вельмі бедных бацькоў. Пра які патрыятызм можна казаць? Пра якую сьвядомасьць? Ад маленькага да самага вялікага начальніка адзін прынцып: «Каб добра есьці, трэба несьці, несьці, несьці».

Ніколі ў нашага кіраўніцтва не было самастойнай думкі. Заўсёды чакалі загаду з Масквы. Нельга казаць, што ўраду Беларусі не спадабалася незалежнасьць. Памятаеце, як дзялілі партфелі? Спадзяваліся адхрысьціцца ад дэмакратычных переменаў у суседзяў. А як Кебіч езьдзіў па розных краінах і як шмат абяцаў? Паўднёвая Карэя нават зьбіралася наладзіць у нас вытворчасьць аўтамабіляў за тры месяцы. Зразумела, за кошт нашага гэаграфічнага становішча й меншых заробкаў, чым у сябе (праўда, такіх, якія нам і ня сьніліся). Менавіта так карэйцы выйшлі з эканамічнага крызісу з дапамогай Японіі. Напэўна, не адны яны мелі такія прапановы. Мы ж знаходзімся на мяжы паміж Усходам і Захадам.

Але нічога не адбылося, бо для гэтага трэба навучыцца думаць самастойна, рэфармаваць эканоміку. А розум працуе толькі па-старому — з «цэнтру» сыравіна й папяровыя «Ільлічы», а туды тавар. Няхай галеча, але затое стабільная, і ўлада непахісная. Тут яшчэ й Ельцын ня вельмі моцна трымаецца. Вось і запрасіліся нашыя кіраўнікі пад гаспадарскую руку.

Здаецца, няма ўжо наіўных, і ніхто ня верыць, што нешта зьменіцца на лепшае. Расея не зьбіраецца ратаваць беларускі урад, хто б ня быў пры ўладзе ў Маскве. Эканоміка там яшчэ горшая, чым на Беларусі. Пратрымаюцца нашы кіраўнікі яшчэ паўгода-год, давядуць нас да поўнага жабрацтва, рэфэрэндум забалбочуць, ды і з гэтага саюза нічога не атрымаецца.

Сітуацыя цяжкая, але не трагічная. Можа, тое жахлівае становішча, ў якое нас зараз вядуць, ўрэшце расплюшчыць вочы нашаму народу, і ён выйдзе з сьпячкі і зьверне ўвагу на тое, што робіцца наўкола. Зразумее, хто яму сябар, а хто вораг.

**Дз. КІСЕЛЬ.**

## Балтыйскія паведамленьні

**СТРАТЫ.** Пасьля таго, як 25 сакавіка на Летувіскай тэлевізіі была зьнятая з эфіру сьвяточная беларуская праграма й Таварыства Беларускай Культуры атрымала адмову ўдалаў Летувы аднавіць у Вільні Беларускі музэй, што быў ліквідаваны пасьля вайны, беларуская супольнасьць панесла чарговыя страты. На гэты раз гутарка зноў ідзе пра тэлевізію. У панядзелак 5 красавіка апошні раз выйшла ў эфір штотыднёвая беларуская праграма «Раніца тыдня», а таксама штотыднёвая суботняя тэлеперадача «20 хвілінаў пабеларуску», скарочаная ў часе й уключаная як рубрыка ў расейскую праграму «Согласие».

Такім чынам, беларусы Віленшчыны страцілі здабыты колькігадовымі намаганьнямі эфірны час. Варта нагадаць, што ў Летуве не рэтрансьлюецца праграма Беларускае тэлевізіі (тады як рэтрансьлююцца дзьве расейскія, адна польская й адна нямецкая), нельга набыць ці выпісаць беларускі друк. Таму зразумела, наколькі важная для тутэйшай 60-тысячнай беларускай супольнасьці кожная хвіліна тэлеэфіру на роднай мове. Прадстаўнікі ўладаў тлумачаць новыя скарачэньні празьмернымі выдаткамі, а таксама новымі палітычнымі й творчымі канцэпцыямі, што зьвязана з прыходам новага кіраўніцтва на тэлевізіі і ўвогуле ў краіне.

**ЗАМКІ.** Урад Летувы са свайго рэзэрву выдзяліў 6 млн. таленаў на вывучэньне замкаў. Як вядома, у пералік важнейшых літоўскіх замкаў уваходзяць і тыя, што месьцяцца на тэрыторыі сучаснай Беларусі — Наваградскі, Крэўскі, Лідзкі ды іншыя.

**«ПАТРЫЯТЫЗМ».** Як паведаміла летувіская газэта «Respublika», былы камандзер дывізіі сумна вядомага Паўночнага гарадка ў Вільні (успомнім танкавыя атакі на людзей у студзені 1991-га, пераход ўваньне функцыянэраў КПЛ-КПСС, прытулак для баявікоў віленскага ОМОНу) гэнэрал-маёр В. Фралоў адмовіўся ад прапановы камандаваць расейскай дывізіяй, што разьмешчаная ў Таліне, бо зьбіраецца перайсьці на службу ў беларускую нацыянальную армію.

**Паводле матэрыялаў СМІ падрыхтаваў А. К.**





*ВІЛЕНШЧЫНА*

# Беларуская Вільня

Сёньняшняя сітуацыя нацыянальнага адраджэньня на Беларусі шмат чым падобная да сітуацыі пачатку стагоддзя. Як і тады, пасьля доўгага часу русіфікацыі й фактычнага нябыту, так і цяпер — пасьля паўстагоддзя саветызацыі й поўнагаператварэньня культуры ў сурагат, група энтузіястаў пачынае вяртаць ёй сапраўднае аблічча. І тады й цяпер адраджэньне пачынаецца фактычна з нуля. Розьніца паміж тым адраджэньнем і гэтым у тым, што ў пачатку стагоддзя яно пачыналася ў Вільні.

У 1903-м годзе тут утварылася першая беларуская палітычная партыя. Тут жа пачала выходзіць буйнейшая беларуская газэта «Наша Ніва», якая заклала падваліны ўсяго нашага нацыянальнага жыцьця. У Вільні дэбютавалі ўсе клясыкі беларускае літаратуры новага часу — Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, А. Гарун, М. Гарэцкі, З. Бядуля, А. Пашкевіч-Цётка... Тут адрадзіўся беларускі тэатар. Тут былі сабраныя скарбы Віленскага беларускага музэю, тут адкрыліся першыя беларускія школы... Словам, Вільня адразу стала цэнтрам беларускай культуры для ўсёй нашай нацыі, неафіцыйнай сталіцай Беларусі.

Зразумела, што ўсё гэта не магло раптам узяцца ды зваліцца з неба. Яно толькі выйшла на волю пасьля цэлага стагоддзя рэпрэсій, мардаваньня й забаронаў, якія чыніла над намі каляніяльная расейская ўлада.

За гэтае стагоддзе нам стараліся ўбіць у галаву тое, што нас, беларусаў, як нацыі, не было, няма й ніколі не будзе. Нам даводзілі, што: папершае, у нас няма гісторыі, бо Вялікае Княства Літоўскае, куды пяць стагоддзяў уваходзіла Беларусь, было чыста балцкай дзяржавай, а фэдэратыўная Рэч Паспалітая, у складзе якой мы пражылі два стагоддзі — гэта Польшча; па-другое, што ў нас няма рэлігіі, бо царква — толькі расейская, а касьцёл — толькі польскі; па-трэцяе, што ў нас няма сваёй мовы, бо тая мова, на якой мы гаворым — гэта дыялект ці то польскай, ці то расейскай. Вось што стараліся нам дадавесьці на працягу цэлага стагоддзя.

Але ўбіць што-небудзь у галаву можна толькі цёмнаму, паняволенаму народу. А калі ў народа зьяўляецца свая інтэлігенцыя, зьяўляецца й свой розум. Беларускім адраджэнцам пачатку стагоддзя — братам Івану й Антону Луцкевічам, Вацлаву Іваноўскаму, Вацлаву Ластоўскаму ды іншым — дастаткова было зьвярнуцца да кніг, да архіваў, да жывое памяці людзей, як адусюль пасыпаліся факты гістарычнае праўды. Пісаныя па-беларуску дакумэнты 12-га стагоддзя, першыя беларускія друкаваныя кнігі, выдадзеныя Францішкам Скарынам у Вільні ў 1520-х гадох, Статут Вялікага Княства Літоўскага й архівы Літоўскай Мэтрыкі, пісаныя па-беларуску, і г. д., і г. д. Дзесяткі й сотні выдатных асобаў, сапраўдных герояў нацыі, багатыя літаратурныя, музычныя, тэатральныя традыцыі. Словам, беларускае адраджэньне пачатку XX-га стагоддзя не звалілася з неба.

Яго — гэтае адраджэньне — абумовіла й тое змаганьне з маскоўскімі акупантамі, якое ў 1794, 1831 і 1863 гадох падымалася ў нашым краі. І тое, што вялікі Адам Міцкевіч у сваёй лекцыі ў Колеж дэ Франс роўна 150 гадоў таму назваў беларускую мову з усіх славянскіх моваў найлепш распрацаванай і прыгожай. І дзейнасьць Кастуся Каліноўскага, які выдаваў сваю «Мужыцкую праўду» пад псэўданімам «Яська, гаспадар з-пад Вільні», якога мураўёўцы схапілі ў віленскіх Сьвятаянскіх мурох і павесілі на Лукішках. Нарэшце, новае беларускае адраджэньне абумовіла й праца віленскага адваката й паэта Францішка Багушэвіча, які сфармуляваў галоўныя ідэі гэтага адраджэньня. І вось яно пачалося...

Мы ўжо мелі сваю Беларускую Народную Рэспубліку ў 1920-м годзе, калі бальшавікі й палякі ў Рызе бяз згоды беларусаў падзялілі Беларусь на дзьве часткі — дзьве сфэры сваіх уплываў. Вільня разам з усёй Заходняй Беларусяй трапіла пад польскую ўладу, пад польскія забароны, асіміляцыю, турмы. Але на той час нішто ўжо не магло спыніць беларускага адраджэньня.

У 20-30-я гады ў Вільні выдаваліся дзесяткі беларускіх газэт, часопісаў, кніг, якія можна было набыць у віленскіх беларускіх кнігарнях. У мурох былога Базыльянскага кляштара дзейнічаў беларускі культурны цэнтр — гімназія, музэй, розныя грамадзкія ўстановы. Працавалі дзесяткі палітычных, эканамічных, культурных арганізацый, буйнейшая з якіх — стотысячная Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада — была самай масавай арганізацыяй працоўнага люду ў тагачаснай Эўропе. А наогул у беларускім руху ўдзельнічала ці ня ўсё беларускае насельніцтва Віленшчыны, Гарадзеншчыны, Берасьцейшчыны — сотні й сотні тысяч людзей. І цэнтрам беларускага руху зноў была Вільня.

Дзеля чаго ўсё гэта варта яшчэ раз успомніць сёньня? Дзеля таго, каб паставіць пытаньне — куды ўсё гэта падзелася? І дзеля таго, каб мы лягчэй уявілі сабе, якога беларускага адраджэньня можна чакаць у Вільні й на Віленшчыне заўтра.

Спачатку паспрабую адказаць на пытаньне: куды падзелася віленская беларушчына?

Прычынай новага заняпаду стала новае вынішчэньне нацыянальнай інтэлігенцыі — спэцыялістаў, прафэсыяналаў, проста актыўных людзей. Ужо ў канцы 30-х гадоў польскія ўлады пачалі свой наступ на беларускі рух — закрывалі ўстановы, усяляк абмяжоўвалі й саджалі ў турмы актывістаў. Гэта прымусіла многіх віленскіх беларускіх інтэлігентаў зьвярнуць свае спадзяваньні ў бок камуністычнага Менску. Але, вядома, то быў згубны шлях. Бо толькі адзінкі з соцень уцекачоў у БССР засталіся жывыя і амаль ніхто не пазьбегнуў канцлагеру. Пасьля, у 1939-м, савецкая ўлада вывезла з Вільні ўсю беларускую інтэлігенцыю ў ГУЛАГ. Але былі таксама й уцекачы на Захад. Яны вярнуліся ў Вільню ў часе вайны, і тут зноў пачалі працаваць беларускія школы, друк, выходзілі радыёперадачы. Каардынаваў гэтую працу Беларускі Нацыянальны Камітэт. Нямецкія ўлады таксама спрычыніліся да вынішчэньня нашае інтэлігенцыі. На іх сумленьні паміж іншым жыцьцё некалькіх беларускіх ксяндзоў і айца Аляксандра Каўша, які ў міжваенны час ператварыў віленскую Пятніцкую царкву ў асяродак для праваслаўных беларусаў.

Але самы жорсткі ўціск усяго беларускага пачаўся тут пасьля вайны. Былі забітыя й вывезеныя літаральна ўсе, у кім яшчэ кволілася памяць пра ранейшае нацыянальнае жыцьцё. Пасьля гэтага летувіскія камуністы-бальшавікі ўзялі курс на поўную ачыстку краю ад усяго беларускага. З Масквы й Варшавы актыўна падтрымліваліся тутэйшыя расейскія й польскія асяродкі. Менск быў увогуле выключаны з палітычнага жыцьця. Такім чынам, віленская беларушчына была адкінутая да зыходнай лініі пачатку стагоддзя й нават яшчэ далей. Бо колькі беларусаў за гэты час сталі так званымі «касьцельнымі палякамі», а колькі — «савецкімі расейцамі»! І тым ня менш, беларускае адраджэньне пачынаецца ў Вільні зноў.



Не таму, што гэтага захацелася кучцы старэнькіх гулагаўскіх вэтэранаў, а таму, што ёсьць на тое зусім аб´ектыўныя прычыны.

Беларусы спрадвеку жывуць на Віленшчыне. Сама Віленшчына сталася ўнікальным рэгіёнам традыцыйнай беларускай культуры, у які ўваходзяць ня толькі Салечнікі й Трокі, Падбродзе й Сьвянцяны, але й Астравец, Смаргонь, Ашмяны. У беларускіх вёсках Віленшчыны гавораць на адной мове, і што, можа быць, самае галоўнае, тут захаваўся жывы беларускі фальклёр. Вільня, як культурнае асяродзе, ня можа разглядацца беларусамі ні як асяродзе эмігранцкае, ні як правінцыйнае. Разам з іншымі народамі беларусы фармуюць тут своеасаблівую Мэкку, як сказаў пра наш горад выдатны беларускі паэт віленчук Уладзімір Жылка. Бяз Вільні як спрадвечнага духоўнага цэнтру праблематычнае духоўнае адраджэньне ўсёй беларускай нацыі. Так выглядаюць перадумовы адраджэньня.

Што ж мы маем на сёньня ў рэальнасьці? 60 тысяч пашпартных беларусаў — гэта народ, пазбаўлены свае інтэлігенцыі. І калі мы ня хочам, каб адраджэньне гэтага народу пайшло стыхійным, папулісцкім, некіраваным шляхам, мы мусім вярнуць народу ягоную інтэлігенцыю, якая адродзіць у Вільні й на Віленшчыне беларускія асяродкі культуры й асьветы. Якім чынам і што яшчэ трэба зрабіць для цывілізаванага беларускага адраджэньня?

**Па-першае,** трэба зьняць абмежаваньні ў атрыманьні грамадзянства Летувіскае Рэспублікі, жыльля, прапіскі й працы для тых беларусаў, якія прыехалі й яшчэ прыедуць у Вільню з тэрыторыі Рэспублікі Беларусі. Прыярытэт тут мусіць быць аддадзены спэцыялістам — настаўнікам, журналістам, гісторыкам, людзям іншых гуманітарных прафэсій. Гэта людзі, з якіх утворыцца кола беларускае інтэлігенцыі наўзамен таго кола, якое было фізычна вынішчана бальшавікамі.

**Па-другое,** неабходна вырашыць усе юрыдычныя пытаньні, зьвязаныя са зваротам Таварыству беларускай культуры ў Летуве трох дамкоў па вуліцы Жыгімонта, 12. У міжваенны пэрыяд гэтыя дамкі былі набытыя ва ўласнасьць для беларускіх сэмінарыстаў-марыянаў, якія стварылі тут сапраўдны асяродак нацыянальнае культуры. Сёньня ТБК робіць ў дамкох рамонт, але да канца ўсе маёмасныя дакумэнты яшчэ не аформленыя і яшчэ ня выселеныя ўсе жыхары, хоць мэрыя абяцала цалкам перадаць іх яшчэ мінулым летам.

**Па-трэйцяе,** трэба стварыць беларускія рэдакцыі на тэлевізыі й на радыё. Павелічэньне аб´ёмаў і якасьці беларускіх перадач затрымліваецца толькі з-за недахопу штатных работнікаў.

**Па-чацьвёртае,** каб рэгуляваць той сацыяльна-палітычны рух беларусаў Віленшчыны, які неўзабаве можа стаць фактам палітычнага жыцьця Рэспублікі, беларусам трэба мець свайго дэпутата ў парламэньце Летувы. Пакуль беларускае насельніцтва рэгіёну яшчэ не настолькі арганізаванае, каб правесьці свайго дэпутата на агульных выбарах. Тым ня менш, мы мусім мець свайго прадстаўніка, які б выказваў і адстойваў нашыя нацыянальныя інтарэсы.

**Па-пятае,** адраджэньне Віленскага Беларускага музэя й Віленскай беларускай гімназіі беларусы зьвязваюць з будынкамі былога Базыльянскага кляштара, дзе з цягам часу мусіць быць аднаўлены беларускі гістарычны культурны цэнтар. Бадай, гэтае мейсца ў Вільні найшчыльней зьвязанае з беларускай традыцыяй на працягу многіх стагоддзяў.

Я наўмысна не кажу пра ўсебаковую дапамогу з боку Рэспублікі Беларусі. Гэтай дапамогі беларусам Віленшчыны як не было, так і няма. Але пра гэта на старонках «Пагоні» гаварылася ўжо ня раз.

Некалі, у 1918 годзе, адзін з лідэраў беларускага адраджэньня Антон Луцкевіч пісаў пра тое, як суадносяцца для беларусаў два цэнтры — Вільня й Менск. Вільня — цэнтар духоўны, Менск — палітычны. Луцкевіч добра разумеў, што Вільня — гэта горад, які ўзьнік на самай мяжы балцкага й славянскага этнасу, горад з вялікімі традыцыямі жыдоўскай культуры, дзе здаўна жывуць яшчэ й палякі, татары, немцы — гэты горад у духоўным сэнсе ня можа належаць толькі да нейкай адной культуры. «Развязка тут можа быць толькі кампрамісная,— пісаў ён.— Вільня пры ўсякіх варунках павінна абслугоўваць абодва народы, для якіх гэтае места было калыскай у часах нарадзін іх культуры».

Каб так было сапраўды, патрэбная жывая праца беларусаў і гарантыі Летувіскай дзяржавы, галоўная зь якіх — разуменьне беларускіх праблемаў, а таксама — курс на грамадзянскую супольнасьць і прыярытэт правоў чалавека.

**Алесь ПАШНЯКОЎ.**

 







ГОРАД



В. Дамброўскі

# ПОМНІЧКІ ПОМНІКІ ПОМНІШЧЫ

Эсэ

1.

Гадоў 10 таму, калі я яшчэ студэнцтваваў у Вільні, дык пачуў гісторыю пра помнік Чапаю ў Горадні. Вясёлую, анэкдатычную, бязглуздую гісторыю. Перакажу яе прыблізна зараз.

Аднаму гарадзенскаму заводу нешта было патрэбна ад, здаецца, львоўскага завода. Выехаў забесьпячэнец туды, дамовіўся атрымаць патрэбнае, але, як гэта было заведзена ў Саветаў, з нагрузкай. Дамо табе, гавораць, усё што хочаш, але й нам пасабі, вазьмі няходкі тавар. Ну й узяў наш забесьпячэнец некалькі соцень чыгунных сьметніц ці кветніц, мода на якія мінула ў 50-я гады. Прымусілі таксама ўзяць і помнік, але на выбар: або Шаўчэнку Тараса, або Чапая Васіля. Помнікі, вядома ж, сэрыйныя, іх па СССР тысячы разышліся ў нагрузку і ўжо ніхто ня браў, усе адмаўляліся ад Тараса з Васілём. Плянавая эканоміка падвяла. Але нашаму забесьпячэнцу ўсё адно давялося браць, і выбраў ён, зразумела ж, гэроя грамадзянскай вайны і анэкдотаў, якраз мода была на чапаяўскія: «Васіль Іваныч, белага прывезьлі!» «Колькі скрынак, Пецька?!».

Гэткім вось далёка не гэраічным чынам апынуўся Васіль Іванавіч у БССР, дзе ніколі дагэтуль ня бываў, у заводзкім складзе ў горадзе па-над Нёманам. І зажыў ён, так бы казаць, у напаўлегальным становішчы. Ніхто ня ведаў, што ўлюбёны народны гэрой апынуўся ў нас. Ні ў абкаме ня ведалі, ні ў гаркаме, ні нават у КДБ. Сьметніцы тыя чыгунныя, дарэчы, неўзабаве замуравалі ў падмуркі — якраз будаўніцтва палаца культуры распачалося. А помнік дапамагаў у цяжкую хвілю забесьпячэнцу, калі таму не было з кім выпіць й даводзілася гэта рабіць на самоце, дык ён размаўляў з Чапаем, скардзіўся на жыцьцё, жонку й начальства. Падобная ідылія цягнулася колькі часу, ажно пакуль забесьпячэнец не памёр, не пайшоў на пэнсію або папросту ня выгналі яго за п´янку, дакладных зьвестак у нас няма.

Новы чалавек, які заняў вакантнае месца, быў патрыятычна выхаваны на лепшых прыкладах і г. д., таму яго вельмі ўзрушыла адкрыцьцё нелегальнага помніка. Адразу было дакладзена па інстанцыях куды трэба. Была створана адмысловая камісія, а потым у абкаме прынялі спэцыяльнае рашэньне. Помнік вымылі з мылам, вынесьлі на руках і паставілі на вуліцы пад будынкам вабласнога суда, нібыта гэта быў зусім не Чапай, а сама Фэміда ці, прынамсі, вядомы царскі юрыста А. Коні. У «Зборы помнікаў» пра гэтую падзею паведамлена надзвычай сьціпла: «Бюст гэроя Грамадзянскай вайны В. І. Чапаева ўстаноўлены ў 1981 г.» І ўсё. А чаму, навошта, з якой нагоды? У энцыклапэдычным даведніку «Гродно» таксама няма тлумачэньняў. Нарадзіўся ў Чэбаксарах, член КПСС з 1917 (можа, ў гэтым разгадка?), вучыўся ў акадэміі гэнштаба, біўся з белаказакамі й белачэхамі, загінуў каля станіцы Лбішчэнск, цяпер г. Чапаеў Уральскай вобл. Недарэчна ўсё гэта, далібог. Мода на показкі з часам мінула, адно што гарадзяне паміж сабой найменавалі вэндыспансэр, што на вул. Чапаева, імем Анкі.





2.

Ну, пра помнік аўтару «Дзіцячай хваробы лявізны ў камунізме» ды «Імпэрыялізму й імпэрыякрытыцызму» (так, здаецца?) сказана й напісана шмат. Пастараймася не паўтарацца. Што можна сказаць напэўна? Гарадзенскі помнік самы аграмадны на заходніх рубяжох нашай неабдымнай нябожчыцы-радзімы, самы вялізарны ад Горадні ажно да самага Парыжа, бо, прыкладам, у Берасьці ўжо ня тыя памеры, ня тыя маштабы, таму што зроблены берасьцейскі Ільліч недзе ў 60-я гады, а памеры яго павялічваліся ад вадной круглай даты, зьвязанай з кастрычніцкай рэвалюцыяй, да другой. На 100-годдзе зрабілі б, мабыць, гэткі, як некалі стаяў у Сталінградзе сам спадар Сталін. Ну, але ўжо які ёсьць. І так самы вялікі ва ўсёй Заходняй ды Цэнтральнай Эўропе. Стаіць сабе як чамадан бяз дзяржаньня. Прапанаваў быў сёлета мясцовы БНФ прыбраць бронзавага стода з-пад вокнаў гарадзкой улады, але ж няма з ім рады! Гэткі ў незалежнай Беларусі прыдумалі закон аб ахове помнікаў, што цяпер гарадзенскага Леніна можна будзе прыбраць адно з дазволу самога Пана Бога ды хіба таго яшчэ Кебіча.



Іншая была справа пры бальшавіках! Свайго пэрсанальнага Леніна наш вабласны горад атрымаў даволі даўно, яшчэ за верным ленінцам Сталінам. Як сьведчыць сьціслы запіс у «Зборы помнікаў», «Помнік Леніну Уладзіміру Ільлічу (гіст.). На пл. Леніна. У 1950 г. устаноўлена скульптура на пастамэнце». Карацей кажучы, помнік агульнарэспубліканскага значэньня, каштоўная рэч з цэменту. І што? Пляваць яны хацелі на гістарычныя каштоўнасьці. Зькарцела ў абкаме паставіць новы, аграмадны помнік й стары, унесены ў «Збор помнікаў» пад № 66, зьнік за ноч

● *Беласточчына*

# Клопаты праваслаўнай моладзі:

**Гутарку са старшынёй Галоўнай управы Брацтва праваслаўнай моладзі ў Польшчы Яраславам Харкевічам прапаноўвае В. Харужы з Беластоку.**

**В. Х.— Брацтва праваслаўнай моладзі ўжо існуе больш за дзесяць гадоў. Ці можам прыблізіць чытачам гісторыю гэтага руху ў Польшчы!**

Я. Х.— Брацтва праваслаўнай моладзі сваю гісторыю пачынае з 1980 года. Заснавана яно было групай студэнтаў і супрацоўнікаў праваслаўнай сэкцыі Хрысьціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве. Пачаткова афіцыйная назва была іншая — «Круг тэолагаў праваслаўных», што й адпавядала характару групоўкі. Гэты круг гуртаваў вакол сябе амаль выключна моладзь, зьвязаную з рознымі тэалагічнымі кірункамі.

У 1982 годзе быў прыняты першы Статут «Брацтва», былі абраны ўлады, а Сьвяты сабор Епіскапскай праваслаўнай царквы ў Польшчы блаславіў яго дзейнасьць. Ад гэтага часу паўсюдна зачалі называць арганізацыю «Брацтвам». Афіцыйна, аднак, назва была зьменена на цяперашнюю ў 1991 годзе. У гэтым самым годзе быў зацьверджаны другі, цяпер абавязковы, статут, а сама арганізацыя стала юрыдычнай асобай.

Сама назва «Брацтва», як і яго праграма дзейнасьці, сьведчыць аб працягваньні традыцый і значэньня праваслаўных царкоўных брацтваў, якія некалі адыгрывалі значную ролю. Нашае «Брацтва» зьяўляецца першай маладзёжнай арганізацыяй ва Усходняй Эўропе.

**В. Х.— Якія мэты «Брацтва» ставіла перад сабою ў момант заснаваньня й ці зьмяніліся яны зараз!**

Я. Х.— Можна сказаць, што мэты «Брацтва» былі заўсёды такія самыя й амаль што не зьмяняліся.

Сярод асноўных мэтаў нашай дзейнасьці можна выдзяліць заахвочваньне маладых людзей да актыўнага ўдзелу ў жыцьці царквы, развіцьцё зацікаўленьня сярод моладзі тэалогіяй і духоўным жыцьцём, дапамога слабейшым і самапомач сябрам арганізацыі.

Апошнім часам варта зазначыць, што больш намаганьняў «Брацтва» прыкладвае на сваёго роду працу місійную, што праяўляецца ў публікацыях кніжак і іншых друкаваных выданьнях.

**В. Х.— Што ўдалося зрабіць арганізацыі за апошнія гады! Якія віды Вашай дзейнасьці даюць найбольш плён!**

Я. Х.— Апошнія гады існаваньня «Брацтва» далі працяг і развіцьцё тых відаў (формаў) дзейнасьці, якія бралі свой пачатак у першай палове 80-х гадоў. Асноўная розьніца палягае на тым, што да сваёй цяперашняй дзейнасьці мы ўводзім як найбольш прафэсійнасьці.

Хочам, каб гэта, што робім, рабілася, па меры магчымасьці, як найлепей.

А якія віды нашай дзейнасьці найбольш плённыя? Думаю, што на першае месца трэба паставіць найбольшую падзею, якая адбываецца штогод у траўні на сьв. Гары Грабарцы. Ужо ад 13-ці гадоў пры манастыры сьв. Марфы й Марыі адбываюцца вялікія зьезды праваслаўнай моладзі з Польшчы, «узбагачаныя» замежнымі гасьцямі. На апошнюю гэтую сустрэчу зьехалася вельмі шмат моладзі, рэкордная колькасьць — 3200 асобаў.

Трэба таксама сказаць аб летніх, а таксама аб зімовых лагерах для моладзі й дзяцей. Штогод каля 20 лагераў супольна моліцца, дапамагае й адпачывае ў іх каля 500 маладых людзей.

І яшчэ адна, хоць часам найменш бачная, але вельмі патрэбная, наша дзейнасьць. Маю на ўвазе пастаянныя сустрэчы груп моладзі ў сваіх прыходах. Сустрэчы гэтыя, якія вядуць часта найбольш паважаныя моладдзю сьвятары, адбываюцца ў больш, чым дзесятку, прыходах (асабліва ў вялікіх і сярэдніх гарадах) пастаянна, а ў астатніх прыходах зрэдку. На гэтых сустрэчах можна пачуць адказ на шмат якія жыцьцёвыя пытаньні ды праблемы, узбагаціць свае тэалагічныя веды, а таксама супольна пабываць у грамадзе сваіх маладых равесьнікаў, завязаць новыя сяброўствы.

 





# ГОРАД



й сьляды яго згубіліся дзесьці ў далёкім райцэнтры, у 3-й ссылцы. Пры бальшавіках усё было проста, а цяпер з гэтай «сьвяшчэннай каровай» няма рады, адно аздабляюць яе бел-чырвона-белыя сьцягі. На адным са здымкаў вы маеце ўнікальную магчымасьць убачыць сасланы помнік (правая рука ўзьнята ўгару) незадоўга перад высылкай.

А гэты, напалову ўсечаны помнік, таксама мае мясцовую дыслякацыю, але папросту мала хто з гарадзенцаў пра яго ведае, а бачылі наогул толькі адзінкі, бо ён знаходзіцца на падворку ЦЭЦ-1, куды чужых строга не пушчаюць. Паставілі яго тутака (дакладная дата невядомая), мабыць, у памяць аб пляне ГОЭЛРО ды «лямпачцы Ільіча», то бок Эдысона. Але гэта ўсяго толькі нашая здагадка, бо гэтага нелегальнага Леніна няма ў «Зборы» й даведніках, таму, мусіць, ён і помнікам ня лічыцца. А шкада. Пра яго, думаецца, можна было б прыдумаць што-небудзь рамантычна-узьнёслае ня горш як пра таго аграмаднага, што на пляцы (гл. энц. даведнік «Гродно»): «В позе, характерных жестах рук, моделировке фигуры отражена творческая энергия вождя».

## 3.

Нас, савецкіх беларусаў, хоць сяродначы абудзі ды спытай, прыкладам, хто самы вялікі хімік, адкажам не марудзячы: Ламаносаў! А хто радыё прыдумаў? Папоў! А хто танк прыдумаў? Усё рускія людзі. Якіх мы меншыя, памяркоўныя браты. Дзіва што ў Горадні апроч ленінаў ды Чапая, стаіць танк, Шчорс, скульптурная кампазіцыя «Всегда начеку» на вайсковых могілках і г. д. і да таго падобныя. Паводле энц. даведніка «Гродно»: «Многие П. представляют значит. художеств. ценность, органично входят в архит. ансамбли и комплексы улиц и площадей, занимают важное место в архит. облике города. В художеств.-архит. облике и обществ.-политич. жизни Гродно наиболее значит. роль играют Ленину В. И. памятник на пл. Ленина,



Курган Славы... Играют важную роль в патриотич. и эстетич. воспитании трудящихся». Канец цытаты, дзякуй за цярплівасьць й увагу. Тут без бутэлькі, як той казаў, не разабрацца дый пісалася ўсё гэта (ужо не кажу пра досыць «густоўныя» скарачэньні) ня йнакш пасьля паўлітэркі. Суцэльны «брэд сівай кабылы» або як у нас кажуць, казаў Халімон рабой кабыле сон...

Гэта што, былую загарадную сядзібу Станіслава, на якой яшчэ захаваўся вэнзэль апошняга караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага (на вул. Церашковай!) вельмі аздабляе нягеглы помнічак Ціміразеву?! Ціміразеў быў вялікі вучоны, але прычым тут ён? Ягоны вулічны бюсьцік нават пасароміліся ўключаць у даведнікі ды экцыкляпэдыі. Або пабудавалі ў нас хіміка-тэхналягічны тэхнікум, а перад уваходам абавязкова паставілі Ламаносава. А праз 200—300 мэтраў, насупраць мэдінстытута апынуўся ўсяго толькі зялёны зьмій, нібыта й не было ў нас доктара лекарскіх навук славутага Фр. Скарыны! Дарэчы, ні Ламаносава, ні зялёнага зьмія ў «Збор помнікаў» не ўключылі (абодвух гл. на здымках). Таму, мабыць, кіраўніцтва наважылася сьпісаць халмагорскага вучонага й мы з фотакарэспандэнтам з цяжкасьцю адшукалі яго на задворках. На ягоным месцы цяпер стаіць помнік хлопцам, якія паводле чужынскай волі загінулі ў Аўганістане.

А яшчэ праз 200—300 мэтраў у бок Друскенік вялікі помнік землякам, што загінулі са сацыялізм у тым Аўгане. Помнік адкрыў летась наш міністр абароны... Месца гэтае было доўга занядбаным. На ім спачатку стаяў падарунак з таго ж львоўскага заводу сэрыйных помнікаў, сучасны варыянт «бабы з вяслом», які цяпер дыслякуеца праз 600 мэтраў адсюль на падворку раддома (гл. на здымку). У гарадзкім гайніку камнёвая жанчына з дзіцём памерамі свайго бюста магла псаваць густы мясцовых школьнікаў, таму, мабыць, яе прыбралі прэч з вачэй. Дзьве наступныя грудастыя жанчыны (гл. на здымку) таксама спачатку былі пастаўлены ў тым жа самым гайніку, але ў супрацьлеглым яго баку, побач палаца культуры «Юнацтва» (у якім, дарэчы, выступаў Данчык, «Лэдзі Панк», Малгажата Астроўска з «Лёмбардам» і «Уліс»), аднак іх неўзабаве прыбралі дзеля тых жа цэнзурных меркаваньняў ды вывезьлі ў загарадны піянерлагер.

## 4.

Я блукаю гарадзенскімі вулкамі, спыняюся перад ейнымі помнікамі, ды часам пачынаю няверыцца: а ці гэта ня Нью-Васюкі, ня Сызрань, Валагда або Цьмутаракань? Быццам бы й не было Вітаўта, Грунвальда, ня было Ст. Баторыя, ня было старажытнай каралеўскай Горадні, не працаваў у ёй урад БНР. Нічога гэтага, здаецца, й не было, а быў толькі савецкі горад Гродна: два-тры Леніны, танк на п ´едэстале з 1968-га года, растрыбушаны «ТУ-104 — харошы самалёт» у 200-гадовым Жылібераўым парку.

У маёй праходцы мяне суправаджаюць сьцені Каліноўскага, Міцкевіча, Д. Гарадзенскга, Багдановіча, Тызэнгаўза, Жылібэра. Мінула ўжо па 4-5 год, як вырашана пабудаваць некаторым з іх помнікі. Але аніводнага няма. Праводзяцца конкурсы, паўтараюцца двойчы, тройчы. Усё марна. Нашых скульптараў навучалі ляпіць толькі Леніна ды бабу з вяслом. Здараюцца, праўда, часам і ўдалыя праэкты, але на іх увасабленьне як заўсёды няма грошай. Ну што ж, ужо лепш гэтак абы толькі не працягвалася бязглуздае бальшавіц-



кае помнікабудаваньне. Каб ім яшчэ крыху пакіраваць, дык у Горадні абавязкова б паўсталі помнікі Суворава, мурыну Лумумбу і зусім ужо якім-небудзь недарэкам. А калі яны ўсё ж зноў вернуцца, дык пабудуюць на Савецкім пляцы помнішча Кім-Ір-Сэну, або ягонаму сыну, або жонцы.



Бо сёньня гэта самы лепшы сябра камуністых Рэспублікі Беларусь.

**Фатаграфавалі А. УЛАДАСЕВІЧ і А. МАКАРЭВІЧ (2 Леніны).**

**В. Х.— У якіх галінах дзейнасьці будзеце праводзіць сваю працу ў будучыні?**

**Я. Х.—** Будучыня ставіць перад намі новыя выпрабаваньні, якія пры абмежаванай колькасьці людзей з жаданьнем грамадзка працаваць, дапамагаць іншым. Жыцьцё штораз менш зьвязана з праблемамі веры, а больш з бескрытычным пераймань-нем заходніх узораў жыцьця, нясе з сабой вялікую пагрозу для духоўнага рэлігійнага жыцьця. Гэта кранае перад усім моладзь, якая найхутчэй пераймае ўсе навінкі.

Як хочам перамагчы праблемы, якія нясе нам будучыня? Па-першае, штораз лепей наступае разьвіцьцё выдавецкай дзейнасьці. Выдавецтвы нашыя — гэта інфармацыйныя часопісы, якія даюць інфармацыю аб нашай дзейнасьці. Яны асабліва патрэбныя ўсім, каго навучаюць закону божаму (рэлігіі) у школах.

Другая, амаль што новая на будучыню галіна дзейнасьці — гэта абозы (лягеры), на якіх можна навучыцца, як дзейнічаць і працаваць з моладдзю. Найчасьцей такія лагеры вядуць людзі з вопытам, з-за мяжы. Тут можна вучыцца замежным мовам. Гэта будзе спрыяць лепшым кантактам з замежнымі арганізацыямі з іншых дзяржаваў.

**В. Х.— Як арганізацыя ставіцца да беларускай культурна-нацыянальнай спрадчыны й да яе захаваньня?**

**Я. Х.—** Трэба адзначыць, што ў дзейнасьць «Брацтва» уключаюцца перад усім такія людзі, якія вышэй іншых вартасьцяў ставяць сваю веру. Праваслаўе зьяўляецца фактарам, які аб ´ядноўвае людзей розных нацыянальнасьцей, што жывуць у Польшчы. Мушу сказаць, што вельмі часта цераз захаваньне свайго веравызнаньня (рэлігіі) зьберагаецца розьніца нацыянальных меншасьцяў у нашай краіне. І нягледзячы на гэта, што большасьць нашых сяброў і дзеячоў штодзённа размаўляе па-польску, робім усё, што можам, каб захаваць нацыянальнасьць, перш за ўсё беларускую і ўкраінскую. Я сам найперш адчуваю сябе праваслаўным, а потым беларусам. Хачу, каб элемент беларускасьці выступаў у нашай дзейнасьці. Хай за прыклад будзе выдаваны намі часопіс (квартальнік) на беларускай мове «Фос» («Сьвятло з грэцкай мовы»), сьпеўнік беларускіх народных песень «Спадчына», малыя кніжкі (брашуркі) аб «Брацтве», «Што гэта значыць, быць праваслаўным».

Таксама элемент беларускасьці пераважае падчас вогнішча на зьезьдзе нашай моладзі ў траўні на сьв. Гары Грабарцы. Ня мушу хіба сказаць, што не так ужо рэдка на сустрэчах маладзёжных груп на прыходах (перш за ўсё на вёсках) мовай размовы зьяўляецца беларуская.

**В. Х.— Ці супрацоўнічаеце Вы з маладзёжнымі замежнымі арганізацыямі, а асабліва з Беларусі, і як праводзіцца гэта супрацоўніцтва?**

**Я. Х.—** Так, такое супрацоўніцтва існуе практычна ўжо ад першых гадоў дзейнасьці «Брацтва». Найважнейшым для нас зьяўляецца супрацоўніцтва з праваслаўнай моладдзю ў межах СЫНДЭСМОСА (Сусьветнае Брацтва Праваслаўнай моладзі). Наша арганізацыя зьяўляеца сябрам гэтай арганізацыі ўжо з 1983 года. Маем цесныя кантакты з моладдзю з Фінляндыі, Чэхіі й Славакіі, і ў апошнім часе з Беларусі. У супрацоўніцтве з Сындэсмосам арганізавалі ў 1990 годзе IV Сустрэчу Школ Тэалагічных у Супрасьлі, а таксама Міжнародны Семінар Лідэраў Праваслаўных Маладзёжных Арганізацый у Цепліцах у бягучым годзе.

З кантактаў з іншымі веравызнаньнямі трэба адзначыць супрацоўніцтва з Сусьветнай Фэдэрацыяй Студэнтаў-хрысьціян і Экуменічнай Рады Моладзі Эўропы. У рамках гэтых кантактаў нашыя дзеячы прымаюць удзел у курсах, сэмінарах па-за межамі Польшчы, а нашыя сябры пазнаюць багацьце праваслаўя.

Агулам штогод каля 30 сяброў «Брацтва» выязджае за мяжу, і столькі ж прымаем з Польшчы.

Што датычыць кантактаў з моладдзю Беларусі, ад некалькіх гадоў супрацоўнічаем з групай моладзі з Менску, а апошнім часам навязалі кантакт з менскім брацтвам «Трох Віленскіх Мучанікаў». Існуюць таксама ад часу да часу кантакты з паасобнымі асобамі з Беларусі.

**Гутарыў В. ХАРУЖЫ.**
**Беласток.**

## Сэмінар выкладчыкаў «эспэранта»

Нядаўна ў Магілёве прайшоў сэмінар выкладчыкаў «эспэранта». Да ўдзелу ў гэтым мерапрыемстве зьехаліся эспэрантысты з Польшчы, Расеі, Украіны, Беларусі — усяго 47 чалавек. На працягу дзевяці дзён аматары міжнароднай мовы слухалі лекцыі, якія чытала пэдагог, міжнародны дыплямант з Польшчы Эва Бондар. Пасьля прачытаньня курса лекцый слухачы здалі экзамэны на атрыманьне атэстату выкладчыка.

Міжнародныя атэстаты катэгорыі «А» атрымалі 13 удзельнікаў сэмінару, яшчэ трое дабіліся атэстату катэгорыі «Б».

**Г. А.**

### АБВЕСТКА

З 23 траўня ў гарнізонным Доме афіцэраў Горадні адбудуцца канцэртныя выступленьні хору эспэрантыстаў з Польшчы. Хор выконвае творы на беларускай, польскай і ангельскай мове, эспэранта.

**Г. А.**



## «DE PASSERELLE» — «МОСТ ПРАЗ ВАДУ»

**Такую назву носіць фальклёрны ансамбль з бэльгійскага горада Дыльзэн-Стокэм, які на мінулым тыдні наведаў Горадню. Запрасілі гасьцей тутэйшыя артысты з калектыву «Спадчына»**



## «Мы перасталі змагацца»,— прызнаецца кіраўнік «МРОІ» Лявон Вольскі

**— Лявон, апошнія пару гадоў пра «Мрою» стала значна меней чуваць. Што вы можаце сказаць пра тое, што адбывалася ў вашым гурце!**

— Справа ў тым, што мы ад пачатку былі па іміджы скандальнай змагарскай камандай, якая ў той час была напатрэбу, яна была якраз папулярная сярод пэўных колаў і наогул. А апошнія прыкладна гады два мы ўжо ў гэты струмень не трапілі, бо перасталі змагацца. Атрымалася, што рок-н-рол больш зацягвае, чым гэтыя ідэі. У прынцыпе цяжка выкарыстоўваць музыку дзеля ідэі, але можна — у нас было так спачатку.

Потым пераважыла творчасьць музычная, і мы прыйшлі да раўнавагі тэксту й музыкі. Зьмяніўся наш слухач, зьмяніўся імідж. Пачалі «дуркі» розныя сьпяваць. Натуральна, што гэта быў нейкі адыход ад папярэдняй творчасьці. Але з іншага боку, калі ты столькі год займаешся нейкай справай, як ні займайся, усё роўна праз пэўны час прыйдзецца яе рабіць на сур´ёзным, нармальным узроўні. А ў нас ня было магчымасьці, таму што Веня Конеў, наш гітарыст, проста не хацеў. У яго была альтэрнатыўная справа — камп´ютэрнае праграмаваньне, у якой ён — прафэсіянал. Ён сур´ёзны, таленавіты чалавек, і быў гэтым увесь час моцна заняты. Таму ён не хацеў цалкам зьвязвацца з рок-н-ролам.

Гады паўтара, недзе пасьля паездкі ў Францыю, мы самі ня ведалі, у якім статусе знаходзімся: альбо мы — прафэсіянальная каманда, альбо так проста нешта граем, я не магу сказаць, што гэты пэрыяд быў кепскім у творчым плане, здараліся й знаходкі. Мы падыйшлі чамусьці, ня ведаю нават, як гэта атрымалася, да амаль што традыцыйнага рытм-энд-блюза ў творчасьці, крыху такога шорсткага. Гралі ўжо чыста блюзавыя тэмы й нават адну сьвінгавую.

Натуральна, што павінна было нешта ў нейкі бок зьмяніцца: альбо цалкам стыль, нават каманда, альбо трэба было неяк па-іншаму усё гэта вырашаць. Вырашаць для сябе, што ты хочаш ва ўсім гэтым бачыць. Тое, што цяпер мы стварылі, можна сказаць, гэта новы праэкт, хаця гучаньне, уласьцівае «Мроі», засталося. Граем мы зноў жа не экспэрымэнтальную музыку, а даволі традыцыйную.

Зьмяніўся й склад, нават колькасьць чалавек (на дзесятым ці на адзінаццатым годзе існаваньня) зьмянілася раптам. Нас цяпер пяцёра. Тры чалавекі, што ад пачатку заснаваньня былі: Алег Дземідовіч, Юрась Ляўкоў, я. Яшчэ адзін бубнач дадаўся (яны з Алегам мяняюцца на канцэрце), Юрась Цынкевіч. Адзін на ўстаноўцы сядзіць, другі на бубне, альбо на кафбэлзе. Гітарыст Віктар Шот — вельмі таленавіты, ён шмат дзе перайграў, у адным складзе «Бонды», нават калі адтуль пайшлі Корань з Маркавым. Граў у «Інспэктары» са Смольскім, граў у каманьдзе «Гоў», таксама са Смольскім і з Юрасём Цынкевічам.

Я пасьля доўгага перапынку нарэшце адчуў, што атрымліваецца няблага, што проста добра працуецца, без асаблівых перашкодаў, тым болей, што мы ўладкаваліся, як гэта ня дзіўна гучыць, у філармонію.

**— І хто вас там «прыгрэў»!**

— Гэта называецца Дырэкцыяй эстрадна-цыркавога мастацтва. Там усё жыцьцё сядзелі «Чараўніцы», там тэатр-студыя «Сябры». Вуяціч — мастацкі кіраўнік, а гэнэральны — Літвіновіч.

**— А з чыёй пасылкі гэта атрымалася!**

— Нам прапанаваў Юра Цыбін з «Беларускай маладзёжнай». Ён ведаў, што будзе праслухоўваньне філарман ічных калектываў, у якім могуць удзельнічаць калектывы з боку.

**— Гэта тое, што адбывалася на заводзе халадзільнікаў у лістападзе!**

— Так, там нас Ярмоленка паслухаў... Увогуле я яму зьдзівіўся, бо ў музыцы ён чалавек памяркоўны й даволі нацяганы ў розных стылях. Ён вартасьці бачыць. У мяне з ім заўсёды былі асацыяцыі: «Лягу-прылягу», а зараз колькі не сустракаўся, заўважаю, што ён даволі зычліва ставіцца, як ні дзіва.

Цяпер такі час, што гэтыя сур´ёзныя супярэчаньні паміж папсой і рок-н-ролам, гэтая бездань, якая раней ляжала: мы ў сутарэньнях, а вы на сцэне, вам грошы — нам ня грошы, здаецца, адыйшла. Я думаю, што калі хто з рокераў яшчэ зараз вось так казырыцца, дык гэта даволі сьмешна выглядае. Сёньня ўсе ў аднолькавых умовах: калі ты хочаш працаваць, ты ідзеш, уладкоўваешся й працуеш. Тым болей, што пачынаецца сур´ёзная камэрцыя. Ёсьць такія каманды, якія ня хочуць працаваць камэрцыйна, якім гэта ня трэба. Калі ласка. А выступаюць усё роўна ўсе разам.

Для мяне цяпер цалкам не істотна, з кім я выступаю ў канцэрце. Канешне, лепей, калі са сваімі, з «Крамай», напрыклад. Нават ва ўспрыняцьці публікай ня бачу вялікай розьніцы, такая музычная памяркоўнасьць. Іншая справа, на якім узроўні робіцца любая музыка. Мы цяпер дарасьлі да добрых інструмэнталаў, добрых аранжыровак, а таму цяпер можам нешта казаць і наконт папулярнай музыкі таксама.

**— Калі станавіцца прафэсіяналамі, дык трэба, каб існавала сістэма шоу-бізнэсу. Расейцы памкнуліся на Захад, зразумелі, што паказваць асабліва няма чаго, і стварылі ўсю гэтую сістэму ў сябе дома. А што ёсьць у нас!**

— Што тычыцца року, дык у нас няма нічога наогул. Але ты дарма лічыш, што на Захадзе няма чаго паказваць. СССР была вельмі вялікая краіна. Зараз расьце новае пакаленьне, якое ўжо не абмежавана тымі рамкамі, якія былі ў нас. А рабіць музыку па-ангельску, на сярэднеэўрапэйскім узроўні зусім не складана. Па маіх прагнозах гадоў праз пяць выканаўцы з былога СССР пачнуць зьяўляцца дзе заўгодна, і на МТВ таксама. Безумоўна, той вакуум, які існуе на Беларусі, будзе нечым запаўняцца. Але Расея — вельмі вялікая краіна ў параўнаньні з намі. У гэтым ёсьць свае мінусы, але ёсьць і плюсы. Безумоўна, стварыць замкнёную, самаакупальную сістэму на Беларусі не атрымаецца. Зразумела, што нам прыйдзецца арыентавацца на адзін з вялікіх рынкаў спажываньня музычнай прадукцыі.

**— Масква робіць вельмі кепскае падабенства з Захадам, а Беларусь даволі брыдка капіруе Маскву. Куды, у далейшым, на тваю думку, будзе арыентавацца беларускі шоу-бізнэс!**

— Папса, бузумоўна, і надалей будзе арыентавацца на Маскву, на правінцыю, на рабочую ўскраіну. Рок, канешне, толькі на Захад.

* * *

За апошні час «Мроя» тройчы выстаўляла сваю новую праграму на буйных канцэртах. Апошні раз гэта адбылося на «Сьнікерс рок-н-рол даў», які прайшоў 23-га сакавіка ў Палацы спорту. З-за павагі да Боба (Барыса Грабеньшчыкова) ад камэнтарыяў да ягонага выступу амаль усе ўстрымаліся. У параўнаньні ж з усёй астатняй расейскай тусоўкай («Ва-банк», «Тэлевізар», «СС-20»), па думцы ўсіх менскіх музыкаў, «Мроя» выглядала значна мацней. Ну што ж, няхай і надалей гэтак будзе.

**А. ДУБРОЎСКІ.**

## Хто твой вампір!

**ВАДА**
**(Працяг.**
**Пачатак у №№ 8, 9).**
**(Рыбы, Рак, Скарпіён)**

У знака «Вады» шмат праблемаў. Адна з іх — назапашаньне энэргіі, другая — частковая яе аддача, вызваленьне арганізма ад лішкаў. «Вадзяныя» уяўляюць сабой мажных, часам нават тоўстых мужчын і жанчын. Яны спажываюць шмат мясных, мучных харчоў, у сярэднім у суткі 1,5—2,0 л вадкасьці, якая ўтрымлівае цукар або соль. Прыкладна 60% энэргіі яны набіраюць з прадуктаў харчаваньня, 25—30 — з навакольнага асяроддзя, астатнія 10 — з хатняй абстаноўкі. «Вада» ня можа быць вампірам, таму што цудоўна засвойвае энэргію практычна з усіх аб´ектаў нэарганічнай прыроды, з фауны й флоры, пры гэтым не спажывае энэргіі людзей. Папросту няма такой неабходнасьці ды і энэргэтычныя каналы «Вады» дзейнічаюць так, што яны ня здольны прымаць і акумуляваць энэргію чалавека.

Праблемы «Вады» і ў тым, як аддаць лішкі, «чорную», выкарыстаную энэргію. Чалавек гэтага знаку вельмі лёгка знаходзіць крыніцу біярэсурсаў, карыстаецца ёй, але потым, праз 20—48 гадзін, ён павінен вызваліцца ад лішкаў. Празьмерныя запасы энэргіі не садзейнічаюць стабілізацыі здароўя «Вады», бо ўжо праз 20 гадзін яна адчувае дыскамфорт. Калі ж і далей гаспадар сваіх энэргазапасаў ня будзе займацца фізічнымі практыкаваньнямі (штодзённа пасьля 15 гадзін), ня выйдзе на шпацыр у зоне адпачынку (2—4 гадзіны за горадам або ў парку), ня зоймецца справамі па хатняй гаспадарцы (ня менш, як дзьве гадзіны ў суткі) і г. д., то яму ўжо ўначы цяжка расходаваць назапашаныя энэргарэсурсы й гэта можа выклікаць сур´ёзныя захворваньні.

Лішкі трэба аддаваць, бо яны вельмі небясьпечныя. «Вада» гэта ведае, адчувае, але пазбавіцца ад лішкаў складана, таму што гэта вымагае часу, фізічных і інтэлектуальных сілаў. «Вада» даволі цяжкая на пад´ём, лянотная і іншы раз аддае перавагу таму, каб ляжаць з газэтай на канапе, чым прытрымлівацца актыўнага ладу жыцьця. Усё сказанае характарызуе адну з унутраных праблем людзей-флегматыкаў і падказвае шляхі яе вырашэньня.

Ёсьць і яшчэ адна праблема, зьвязаная з вонкавымі спажыўцамі біяэнэргіі «Вады» — энэргавампірамі. У цэлым для гэтага знака вампіры не такія шкодныя, бо яны забіраюць лішкі, вызваляюць арганізм ад «чорнай» энэргіі. Аднак «Вада», калі доўгі час кантактуе з людзьмі знакаў «Паветра» й «Агню», можа сур´ёзна пашкодзіць свайму здароўю. Асабліва небясьпечна, калі кантакт з гэтымі знакамі адбываецца ў першай палове сутак, калі ў «Вады» яшчэ не назапашаны сілы, гэта парушае баланс спажываньня ды разьмеркаваньня рэсурсаў арганізма. Там неабходна абдумаць свае гутаркі й працяглыя зносіны з людзьмі пад знакамі «Паветра» й «Агню» у першай палове дня (да 15.00).

Для «Вады» бясьпечна мець справу з такімі ж «вадзянымі». Яны ня будуць прэтэндаваць на яе жыцьцёвыя запасы й паводзіць сябе дабразычліва, дружалюбна.

У адносінах «Зямлі» ёсьць некаторыя складанасьці, таму што для яе такія зносіны вельмі дарэчы, а вось для «Вады» — не заўсёды. Справа ў тым, што Зямля часткова спажывае энэргію «Вады», праўда, адмоўна не ўплывае. Гэта можна назваць джэнтэльмэнскім узаемаабменам энэргіі, дзе партнёры ў цэлым задаволены адзін другім. Тут ёсьць некаторыя асаблівасьці: у «Вады» найбольш спрыяльныя адносіны са студзеньскай (1—19 студзеня), верасьнёўскай (20 жніўня — 19 верасьня) і сьнежаньскай (20—31 сьнежня) «Зямлёй». А вось з актыўнай травеньскай (20 красавіка — 19 траўня) толькі з мужчынамі гэтага знака.

Такім чынам, «Вада» заўсёды знойдзе падтрымку з боку такой самай «Вады» й «Зямлі».

Аднак спакойнага характару жанчыны «Вады» не супраць кантактаваць з мужчынамі гарачага нораву. Да прыкладу з «Агнём», гарачым і тэмпэрамэнтным. Праўда «Вада» павінна ўзьдзейнічаць на «Агонь» і зрабіць яго энэргічным, актыўным, толькі... не вампірам. Няхай «Агонь» зоймецца спортам, часьцей бывае з каханай у кампаніях сяброў, працуе на лецішчы, у хаце й г. д. Так магчыма астудзіць «Агонь» і зьменшыць яго палкасьць.

**Падрыхтаваў**
**А. КАНДРАШОЎ.**

